Адам
Глобус

# Анёл

Вершы

Мінск
Выдавец Зміцер Колас
2021

## *1. Кій*

«Пойдзеш і скажаш,
каб яны пакінулі нашы сады.
Ні ён, ні яна не захочуць сыходзіць з садоў.
Ты мусіш моцна настойваць.
Яны не паслухаюцца і паспрабуюць схавацца,
тады – возмеш жалезны кій,
уздымешся ў паветра,
пачнеш кружляць над Адамам і над Еваю,
пачнеш біць іх цяжкім кіем,
пагоніш іх да брамы, выганіш за плот,
браму ў нашы райскія сады зачыніш.
Адам з Еваю паспрабуюць зрабіць падкоп пад плотам –
ты адлупіш іх жалезным кіем,
адлупіш так моцна, каб яны сто гадоў памяталі,
як іх білі смертным боем
за спробу залезці ў райскія сады без запрашэння.
Ты павінен збіць Адама і Еву так,
каб і праз сем тысяч гадоў
кожны чалавек ведаў пра тое пакаранне...»
Пачуў анёл, і паляцеў, і ўзяў жалезны кій...

## *2. Пад даждажом*

Анёл павольна ўздымаўся на гару.
Ён крочыў па вузкай вуліцы,
пазастаўлянай шэрасценнымі халабудамі
ды танклявымі бязлістымі дрэўцамі.
Ледзяны дождж сыпаўся на анёла.
Ён кашляў, спыняўся і кашляў.
Ён выціраў нос мокрай хустачкай.
Мокры пачырванелы нос ён абціраў хустачкай.
Пакамечанай хустачкай ён цёр распухлы нос.
Анёл кашляў у хустачку і хістаўся,
пахістваючыся, ён ішоў на гару.
Хворы анёл пад даждажом ішоў у аптэку.
Знаёмая аптэкарка прадала белы парашок.
Анёл прыняў белы, як снег, парашок.
Здароўе паправілася, і анёл паляцеў
над вуліцай з шэрымі дамкамі і дрэўцамі.
Паляцеў над горадам праз халодны дождж,
паляцеў высока, за аблокі, вышэй і вышэй...

## *3. Пад прывакзальным пляцам*

Анёл вяртаўся з бібліятэкі.
Мы сустрэліся ў падземным пераходзе
пад прывакзальным пляцам.
Анёл сказаў: «У бібліятэцы на кніжнай выставе –
безліч новых прозвішчаў.
Столькі кніг, што не змагу ўсе прачытаць!»
Маркота анёла падалася мне недарэчнай.
«Не прачытаеш – і не прачытаеш, такой бяды...» –
«Буду чытаць... Хай не ўсё прачытаю,
але з кожным новым аўтарам пазнаёмлюся...» –
«Гэта ж тое самае, што пазнаёміцца
з усімі людзьмі на прывакзальным пляцы...
Столькі сіл і часу змарнуецца... Які сэнс?» –
«У мяне ёсць жаданне, ёсць сілы і ёсць яшчэ час...
Сэнс? Выбачай...
Яго зразумее толькі такі, як і я, анёл».

## *4. Боль*

Малады анёл зачапіўся за вершаліну паркавай сасны
і вывіхнуў белапёрае крыло.
Стары анёл паправіў крыло маладога
і пачаставаў яго кубкам салодкай гарбаты з вяршкамі.
Залацістыя вяршкі клубіліся ў бурштынавай цёмнасці,
нібыта аблокі ў вечаровым пераднавальнічным небе.
Паранены анёл выпіў вяршковыя аблокі,
кінуў гарачае «дзякую» старому,
нацягнуў свежую прахалодна-белую саколку
і ўзняўся над начным сцішаным паркам.
Крыло ўсё яшчэ балела,
але нават з крылаломным болем анёл ляцеў лёгка…

## *5. Пяро*

Анёл кінуў мне з неба светлае пяро.
Я папрасіў у яго пяро, бо хто паверыць
у сустрэчу з анёлам?
Цяпер у мяне ёсць вузкае доўгае анёльскае пяро –
доказ сустрэчы з небам.
Доказ у мяне ёсць, але веры ў людзей няма;
кажуць, гэтае пяро з крыла белага лебедзя,
а не з вялікакрылага анёла.
Хіба я вінаваты, што пёры белых лебедзяў
падобныя да пёраў анёльскіх?
Лёгка пераблытаць анёла і птушку,
калі яны высока-высока ў небе.
Цяжка адрозніць нябеснае ад зямнога...
Добра, я не буду больш настойваць на сваім,
хай анёльскае пяро лічыцца вамі птушыным...
Толькі не трэба адмаўляць саму наяўнасць светлага пяра...

## *6. Вартаўнік*

Пасля вайны ў саборы зрабілі склад,
трымалі ў ім віно, каньяк і гарэлку:
пад скляпеннямі ўзвышаліся хмарачосы са скрыняў.
Пазней склад перайшоў да іншых гаспадарнікаў,
замест пітва ў яго пазавозілі будаўнічыя матэрыялы:
цэглу, дошкі, скрыні з цвікамі ды мяхі з цэментам.
П’янаватыя грузчыкі неахайна кідалі мяхі,
некаторыя папарываліся – і сабор пазасыпала цэментам.
З часам будматэрыялы павывозілі,
пакінулі толькі парваныя мяхі, цэмент і пыл.
Застаўся яшчэ стары вартаўнік,
які ахоўваў пыл з вечара да раніцы.
Штоночы да вартаўніка заходзіў анёл,
каб згуляць з ім партыю ў шахматы і сказаць,
што будынак вернецца да вернікаў.

## *7. У летнім садзе*

Цёплае лета – яно такое духмянае,
што не хочацца спаць дома,
пад дашчанай, хай сабе і светлай, столлю.
Хочацца паспаць у нашым вялікім садзе...
Разам з Толікам Кісялём
мы ставім палатку на прымежку.
Невялікая шэра-блакітная палатка
паставілася пад невысокімі чарнаслівамі.
У палатцы свежа, нават прахалодна.
Мы шчыльна зачыняем уваход,
ляжым пад тонкімі коўдрамі,
чуем, як нехта ідзе па вузкай сцежцы.
Толік старэйшы, у яго першае слова: «Анёл!»
Я малодшы, у мяне другое слова:
«Думаеш, сапраўды анёл ідзе праз наш сад?»
Толік большы, у яго апошняе слова: «Анёл!»

## *8. Цэмент*

Анёл нёс мех з цэментам.
Ён набыў яго ў краме будматэрыялаў
І цягнуў на аўтастаянку.
Чорт запыніў анёла з мехам:
«Што ты збіраешся рабіць?
Нашто табе цэлы мех з цэментам?» –
«Трэба паправіць райскі ганак,
бо прыступкі ў ім пакрышыліся...» –
«Няўжо ў вас там няма работнікаў?
У вас у раі безліч будаўнікоў...» –
«Яны адпачываюць пасля цяжкага жыцця». –
«Магу табе пазычыць работнікаў,
у мяне ў пекле шмат выдатных рабоў...» –
«Добрая ідэя... Думаю, што так і зробім».
Анёл апусціў мех на зямлю
І дастаў з-пад хітона арматурны прут:
«Чорт, бяры мех. Мы пойдзем у рай,
а там ты адрамантуеш сапсаваны ганак.
Пакуль ты будзеш у мяне працаваць,
Пакутнікі ў пекле крыху адпачнуць ад тваіх здзекаў».

## *9. Пудзіла*

Толькі нахабныя і жорсткія мастакі
могуць ставіць і ставяць пасткі на анёлаў,
ловяць іх і трымаюць у палоне.
Пудзілы гэтых крылатых прыгажуноў
мастакі прадаюць у саборах і музеях.
Што яшчэ можна сказаць?
Нават пудзіла з анёла радуе вока.

## *10. Час*

Анёл захоўвае свой жыццёвы час
у тонкіх шкляных прабірках,
закаркаваных чырвоным дрэвам.
Калі ў анёла заканчваюцца сілы,
ён бярэ прабірку, адкаркоўвае
і выпівае чарговую порцыю часу.
У анёла ёсць цэлая скрыня
са шклянымі трубачкамі,
напоўненымі моцадайным часам.
Так, я выдатна ведаю, дзе анёл бярэ час,
але, дзе ён купляе скрыні з прабіркамі,
нават не здагадваюся.

## *11. Залатое сэрца*

Нейкі браслаўскі каталік
скраў у сваім касцёле вотку –
невялічкае залатое сэрца,
падарунак Богу ад удзячнай жанчыны,
якая перанесла цяжкую аперацыю
і вярнулася да жыцця.
Злодзея вылічылі і злавілі.
На судзе ён кляўся,
што залатое сэрца, якое знайшлі
ў ягоным доме, у скарбонцы пад ложкам,
не скрадзенае, а падоранае.
Маленькае сэрца нібыта падараваў яму анёл.
«Хіба анёл не можа падараваць чалавеку сэрца?» –
пытаўся ў суддзі злодзей.
Суддзя – добрая старая жанчына –
ледзь не паверыла падманшчыку,
але ў гэты момант у судзе з'явіўся анёл.
Ён сказаў злодзею: «Ты – злодзей,
які абрабаваў касцёл і які прылюдна лжэ!
За злачынства цябе пакараюць людзі,
а за хлусню пра анёла я сам разаб'ю табе твар!»
Жалезным кіем Анёл ударыў па лобе злодзея
і спакойна выйшаў з судовай залы.

## *12. Дарога*

Анёлу не падабаецца хадзіць.
Ён ходзіць, і досыць шмат ходзіць
па грэшнай зямлі,
але ён любіць лётаць.
Яно і зразумела: калі ты маеш крылы,
дык проста абавязаны лётаць.
Праўда, у анёла ёсць яшчэ іншыя абавязкі,
сярод якіх на першым месцы
абавязак – ісці побач з чалавекам.
Зазвычай доўга анёлу даводзіцца ісці
разам са старым чалавекам.
Такому цяжка ўздымацца на гару,
такому нават па роўнай дарозе ісці цяжка,
бо ўсе свае зямныя дарогі ён збольшага прайшоў...
Засталася адна, якую трэба прайсці побач з анёлам.
Цяжка чалавеку. Цяжка анёлу.
Таму чалавек і анёл ідуць моўчкі.
У час развітання анёл і чалавек адчуваюць палёгку.
Што ні кажы, а прыемна адчуць палёгку
ў самым канцы сваіх шляхоў,
дзеля яе нават анёл топча пыльныя дарогі.

## *13. Чорныя акуляры*

Анёл пачаў недабачваць.
Зіма заканчвалася, надыходзіла вясна святла –
ад сонечнай яркасці ў анёла забалелі вочы.
Забалелі так, нібыта ў іх пяску панасыпалі.
Вочы пачырванелі, наліліся крывёю,
нібыта гэта вочы чорта з пякельным полымем.
Анёлу давялося набыць чорныя акуляры,
каб схаваць пякельную чырвань.
Чорныя акуляры на анёле выглядалі
знарочыстай недарэчнасцю.
Праз не хачу і не буду
Анёл паляцеў да лекара,
паказаў хворыя і поўныя гною вочы.
Лекар выдаў анёлу гаючыя кроплі.
Праз тры дні вочы зрабіліся чыстымі.
Чорныя акуляры анёл хацеў быў выкінуць,
але пакінуў іх у скрынцы з медыкаментамі,
на ўсялякі выпадак, да наступнай вясны...

## *14. Сняданак*

Анёл здзівіўся,
калі я прапанаваў яму на сняданак
яечню са смажаным беконам.
Ад варанага яйка ён таксама адмовіўся.
Такому цяжка дагадзіць.
Давялося нам снедаць аўсянкай,
зваранай на вадзе.

## *15. Кветкі*

Анёл пагрукаў у дзверы:
«Мілая мая Марыя, адчыні...» –
«Не твая, не мілая і дзверы не адчыню!»
Анёл пагрукаў больш настойліва:
«Марыя, я прынёс кветкі.
Перадам букет і знікну...» –
«Я кепска выглядаю:
валасы не пафарбавала,
прышчы абсыпалі нос і шчаку,
лак на пазногцях пааблушчваўся...
Сама сабе не падабаюся.
Прыйдзеш у другі дзень...» –
«Кветкі завянуць... Шкада. Іх трэба паставіць у ваду...» –
«Добра, перадасі букет і пойдзеш...» –
Марыя адчыніла дзверы, і анёл перадаў ёй белыя ружы.
«Белыя ружы? Я не люблю ружы! Забірай букет...» –
жанчына шпурнула кветкі анёлу і зачыніла дзверы.
«Я не ведаў, што ты не любіш белыя ружы...
Дарэчы, якія кветкі ты любіш?» –
«Белыя лілеі. Я люблю белыя лілеі...»

## *16. У саборы*

Зімна ў саборы.
Будзённая раніца.
Рэдкае і няпэўнае святло.
Холад ад калон і холад з вуліцы.
Золкасць такая,
што мяне ўсяго наскрозь прабівае дрыготка.
Сам сябе абдымаю за плечы.
Сцінаюся, бо так крыху цяплей.
На хорах ціха пакашлівае
намаляваны на сцяне блакітнакрылы анёл.
Нават анёл застудзіўся ў лютаўскія халады.
Трэба будзе для яго намаляваць на сцяне
пачак з таблеткамі анаферона.

## *17. Цыгарэта*

Павел курыць толькі чужыя цыгарэты.
Ён працуе ў кнігарні.
Калі моцна захочацца закурыць,
Павел выходзіць на ганак
і просіць у каго з курцоў адну цыгарэту.
Частуюць...
Сёння было халодна, падаў снег.
Павел выйшаў на ганак без шапкі,
выйшаў у адной кашулі.
Моцна хацелася закурыць,
але ўсе, хто стаяў каля кнігарні,
даўно кінулі курыць,
і нават зрэдку яны не пакурвалі чужыя цыгарэты.
Павел стаяў пад снегам без шапкі, у адной кашулі.
Чакаў, пакуль нехта з курцоў не падыдзе.
Лёс быў лагодны да Паўла;
да кнігарні падышоў анёл у сінім хітоне.
Ён курыў слабыя жаночыя цыгарэткі.
Ён і пачаставаў Паўла такой нямоцнай,
але такой жаданай і такой своечасовай цыгарэтай.
Дзеля гэтага анёлы і прыходзяць,
каб дапамагчы табе ў цяжкую і халодную хвіліну.

## *18. Цукровая пудра*

Хочаш пабачыць анёла?
Няўжо і сапраўды табе закарцела
ўбачыць свайго анёла?
Добра, добра, не буду спрачацца,
бо не змагу табе паказаць яго...
Ілгуць. Усе, хто кажа адваротнае, – хлусяць.
Не магу я табе паказаць анёла.
Але тое-сёе я ўсё ж магу і зраблю...
Увечары ты будзеш спяваць,
пачнеш спяваць адну песню за адной,
будзеш спяваць, пакуль не дойдзеш да забытых слоў.
Так здараецца: палову слоў памятаеш,
а другая палова некуды праваліласся.
Намагаешся ўспомніць і не можаш...
Ты разбярэш ложак, сядзеш на яго,
а перад тым як легчы,
насыплеш на падлогу цукровай пудры.
Ляжаш, заплюшчыш вочы і паспрабуеш згадаць
словы з напалову забытай песні.
Анёл прыйдзе табе дапамагчы, абавязкова прыйдзе.
Успомняцца забытыя словы, і ты заснеш шчаслівы.
Раніцай ты пабачыш
на белай пудры анёльскія сляды...

## *19. Ахоўнік*

Ты ўмееш заглядаць у будучыню.
Робіш мала памылак,
бо ведаеш, што чакае наперадзе і
што нам прынясе дзень заўтрашні.
Для цябе не сакрэт,
які сабака пачне брахаць,
а які кінецца, каб пакусаць.
Не таямніца – які мядзведзь вырвецца з клеткі,
а які застанецца раўці за сталёвымі прутамі.
Ты – не анёл, але шмат што можаш,
каб абараніць сваю жанчыну.
Ты ж ведаеш, якое пытанне задасць
хітрадушная журналістка-падманшчыца,
а якое пачуеш ад следчага з аддзела
па барацьбе з фінансавымі злачынствамі.
Ты – ахоўнік, ты ясна бачыш будучыню
і можаш прагнаць рудахвостую лісу,
якая пачала рыць падземны ход
у хлевушок з курамі і пеўнямі.

## *20. Маршы*

Анёл любіць пасвістваць
так, як пасвіствае звычайны хлопчык.
Анёл можа высвістаць ажно цэлую песню.
Калі ты пачуеш тую песню і запомніш яе,
дык у цябе можа атрымацца хіт.
Кажу без перабольшванняў.
З такім хітом можна стаць вядомым
аўтарам адной песні.
Некаму шанцуе, і ён чуе пасвістванне анёла
не адзін раз, а некалькі разоў запар.
Такі слухач можа назбіраць сабе
выдатных мелодый на цэлы альбом.
Той, хто чуе пасвістванне анёла ўвесь час,
Ходзіць у геніях па музычным свеце:
піша музыку для кіно і атрымлівае заказы на оперы.
Трэба сказаць:
вайсковыя маршы і вясельныя вальсы
анёл чамусьці ніколі не насвіствае...
Жалобны марш і рэквіем
кампазітар таксама піша без анёла.

## *21. Лекі*

Анёл можа вылечыць цябе,
можа лёгка выратаваць ад любой
нават самай цяжкай і страшнай хваробы.
Сябе анёл вылечыць не можа,
а цябе – лёгка...
Ён лечыць без аптэчных пігулак,
без мікстуры, без мазяў і бальзамаў.
Ён узмахвае крыламі – і змятае хваробу,
як цыгарэтны попел з барнага стала...
Каб цябе вылечыць і ўратаваць,
яму не патрэбны панарамны здымак сківіцы,
і не трэба сканіраваць твойператомлены мозг.
На флюараграфію анёл цябе не пашле, дакладна.
Ён узмахне вялікімі крыламі,
лёгкі ветрык абаўе цябе з ног да галавы,
і паляціць у неба, зносячы ў незварот хваробу...
Анёл, праўда, можа цябе вылечыць;
але ты не можаш запісацца да яго на прыём,
не можаш яго выклікаць і не можаш яго знайсці.
Ён можа з’явіцца і дапамагчы, а можа і не з’явіцца.
Так што табе ў цяжкі момант жыцця
давядзецца пайсці да простага доктара...

## *22. Давер*

Аднакрыламу анёлу давяраеш болей,
чым анёлу з двума крыламі...
Не стану казаць, што двухкрыламу нельга давяраць,
ці тое, што двухкрылы абавязкова падмане.
Зусім і не абавязкова, што ён будзе падманваць...
Але калі ўсё ж анёлы цябе падмануць
і паспрабуюць як найхутчэй уцячы,
дык аднакрылы будзе ўцякаць не так хутка,
як ягоны двухкрылы сабрат.
Яшчэ добра, калі ў аднакрылага анёла
крыло цёплага ружова-чырванаватага колеру.
Такое вогненнааблічнае крыло відаць здалёк.
Пад такім крылом значна спакайней і цяплей,
чым пад крылом чорным ці нават пад крылом белым.

## *23. Малако*

Анёл выйшаў з самалёта,
каб выпіць воблачнага малака...
Без высотнага малака
ён хварэе на вяласць і ватнасць.
Сам мне расказаў пра хваробы.
Раней анёл на ўласных крылах
лёгка ўздымаўся да самых аблокаў.
Уздымаўся на дзесяць кіламетраў,
а часам нават вышэй, і значна вышэй.
Цяпер анёл разленаваўся,
купляе звычайны (эканомклас) білет на самалёт,
узлятае і ляціць як самы звычайны авіяпасажыр,
потым – выходзіць да аблокаў праз борт.
Анёл здатны праходзіць скрозь сцены,
нават праз жалезабетонныя і праз металічныя.
Анёл выйшаў з самалёта,
калі сцюардэсы пачалі разносіць гарачы сняданак –
амлет з круглай булачкай і гарбату з лімонам.
Анёл выйшаў над крухмальнымі Альпамі.
На ўспамін пра нашу сустрэчу
анёл пакінуў візітку без літар і без лічбаў,
ідэальна белую, ідэальна чыстую.

## *24. Сланечнік*

Анёл старанна выбіраў сланечнік.
Выбраў ці не самы маленькі.
Ён прынюхаўся да сонечнатварай кветкі.
Мядовасць маладзенькага сланечніка заварожвала.
У сланечніку было так шмат лета,
што калі анёл яго зрэзаў і засушыў,
дык змог цэлую доўгую зіму
цешыцца сакавітай слодыччу кветкі.
Цэлую цёмную зіму
анёл радаваўся залатому святлу,
якое ціха лілося з сухога сланечніка.

## *25. Падушка*

У анёла ёсць невялічкая падушка.
Вядома, у ёй няма пуху і пёраў.
Шаўковая насыпка напоўнена папяровымі шарыкамі.
Кожны шарык – запіска з чалавечым жаданнем,
якое анёл пачуў, запісаў і скатаў у шарык.
Нехта пажадаў, каб у яго закахалася суседская дзяўчына;
хтосьці маліўся, каб хвароба пакінула яго дзіця;
нехта захацеў, каб жонка больш не перасольвала катлеты...
Жаданняў шмат, поўная падушка, на якой спіць анёл.
Калі ён кладзецца спаць,
адно чалавечае жаданне здзяйсняецца,
і папяровы шарык з гэтым жаданнем разгортваецца.
Раз на месяц анёл выбірае з падушкі
запіскі са здзейсненымі жаданнямі
і насыпае туды жменю пругкіх шарыкаў
з новымі і самымі свежымі чалавечымі марамі...

## *26. Спадчына*

Белае пяро ў зялёнай траве
нібыта чакала мяне.
Ціхі голас параіў:
«Вазьмі светлае пяро і напішы запавет,
толькі такім цнатліва-белым пяром
можна напісаць разумны запавет,
які дазволіць тваім нашчадкам
без сварбы і лаянкі падзяліць спадчыну...»
Я ўжо нахіліўся над травою,
каб узяць чыстае пяро,
калі пабачыў анёла.
Ён сказаў, каб я не браў падманна-белае пяро,
бо яно належыць д'яблу.
Пакуль я глядзеў на празрыстага анёла
і згадваў словы маці,
якая забараняла збіраць і прыносіць дамоў
пёры, як яна казала, хворых птушак,
белае пяро зменшылася да чорнай кропкі
і знікла ў шчыльна-зялёных пёрах вясновай травы.

## *27. Водары*

Анёл сілкуецца водарамі,
найперш водарамі.
Анёл любіць водар настурак,
любіць водар кропу,
водар кветачак бульбы, бо ён тонкі...
Водар шыпшыны ў анёла сярод улюбёных.
Ад розных смуродаў анёл пакутуе.
Чуць задымленасць, сернасць
і смурод ад спаленых пёраў
для анёла – пакута з найцяжэйшых.
Ад падобных смуродаў анёл можа раззлавацца.
Каб супакоіць, трэба пачаставаць яго
чыстым водарам ландышаў.
У белых званочках ландышаў
тоіцца анёльскі спакой.

## *28. Кармушка*

Сіноптыкі абяцаюць снег і завіруху.
Пачатак сакавіка быў надзіва цёплы,
такі цёплы, нібыта гэта не сакавік, а красавік.
Ён быў цёплы і сонечны.
Здавалася, што пасля такога сакавіка
адразу пачнецца травень.
Толькі скептычныя і разважлівыя сіноптыкі,
што навучыліся зазіраць крыху наперад,
абяцаюць на выхадныя снег з дажджом.
Нават завіруху яны абяцаюць.
Верыць ці не верыць сіноптыкам?
Не ў гэтым сутнасць.
Нават калі я не веру сіноптыкам,
усё адно варта зрабіць кармушку для анёла
і насыпаць у яе жменькі тры залатога цяпла.

## *29. У аўтобусе*

Шафёр сталічнага аўтобуса стаміўся.
На нейкі час у горадзе спынілася метро,
народ кінуўся да аўтобусаў ды тралейбусаў,
а іх колькасць ніхто не павялічваў.
Валтузня, штурханіна, сваркі, а часам і калатнеча з бойкамі.
Нядзіўна, што шафёр аўтобуса моцна стаміўся.
На апошні начны выезд яму не хацелася ісці.
Праца ёсць праца, трэба значыць трэба.
Няважна, што большую частку маршруту
аўтобус праязджае зусім пусты.
Такім пустым ён і ў гэтую ноч ішоў,
пакуль на прыпынку каля Палаца прафсаюзаў
шафёр не падабраў анёла.
На тым прыпынку ў аўтобус часцяком сядалі артысты:
Дзяды Марозы са Снягуркамі,
Мядзведзі з Лісіцамі ды Зайцамі.
Таму і на анёла шафёр быў падумаў – артыст.
Усю дарогу да чыгуначнага вакзала
анёл прастаяў на задняй пляцоўцы.
У люстэрка шафёр бачыў, што самотны анёл стомлены.
Шафёр нават паспеў крыху паспачуваць анёлу,
калі пабачыў, як той цяжка ўзмахвае крыламі
і ўздымаецца ў бяззорнае глухое неба над вакзалам.

## *30. Закон*

Людзі жывуць па сваіх правілах і законах.
Разумнейшыя з іх задумваюцца над паводзінамі,
спрабуюць удасканальваць і законы, і паводзіны.
Дзе законы і правілы для анёлаў?
Чаму ў сэрцы анёла няма маральнага закону?
Хіба ж ён – звер які ці птушка?
Анёл апусціўся на бляшаны дах, згарнуў крылы,
прытуліўся спінаю да цаглянага коміна
і пачаў пісаць правілы і законы для анёлаў.
Ён спісаў цэлы нататнік:
напісаў пра ўсё, што можна рабіць,
і пра тое, чым нельга займацца.
Напісаўшы правілы гульні для анёлаў,
ён расклаў вогнішча на бляшаным даху
і спаліў нататнік каля цаглянага коміна.
Анёлу не патрэбны напісаныя правілы:
закон жыве ў ягоным сэрцы.

## *31. Выгляд*

У анёла быў такі выгляд,
нібыта ён сабраўся мне сказаць:
«Я, вядома, не анёл...»

## *32. Фрэска*

Анёл закурыў...
Безліч разоў ён абяцаў сабе кінуць курыць.
Анёл курыць мала –
адну тонкую цыгарэту за дзесяць гадоў,
але і гэтага больш чым дастаткова,
каб сябе асудзіць і дакараць.
Анёл, які паліць тытунь, варты асуджэння.
Уяві сабе анёла з белай лілеяй і цыгарэтай...
Уяўляеш, якая фрэска атрымаецца?
Ніякай свежасці ў ёй не будзе.
Такі анёл можа надымакурыць
нават, выбачай, у пакоі Дзевы Марыі...
Тое, што аднаго з аматараў папаліць
абвясцілі ўжо пакутнікам і святым,
не апраўдвае анёла-курца.
Ён усё разумее, ён з разумных...
Анёл дакурыў цыгарэтку амаль да фільтра,
затушыў недакурак і выкінуў у попельніцу.
«Наступная цыгарэта будзе апошняй,
Бог – сведка!» – падумаў самаасуджаны курэц.
Я веру анёлу...

## *33. У метро*

Заходжу ў метро на станцыю «Кастрычніцкая».
Нікога няма. Зусім.
Толькі рэха маіх крокаў гуляе паміж калон.
Разумею: ноч, цягнікі толькі што з'ехалі
і пазвозілі ўсіх чыста пасажыраў.
Зараз прыйдуць новыя пасажыры.
Прыйдуць абавязкова. Але ніхто не прыходзіць.
Даходжу да сярэдзіны платформы.
Пад лесвіцай, што вядзе ў тунэль-пераход
на станцыю «Купалаўская»,
спіць анёл.
Ён сядзіць на падлозе,
прытуліўшыся бокам да мармуровай сцяны,
і соладка-соладка спіць.
Ён так соладка спіць,
што мне шкада яго будзіць і распытваць.
Куды падзеліся ўсе людзі?
Ці прыйдзе яшчэ адзін цягнік?
Ці мне давядзецца ісці дамоў пешкі?
Анёла я так і не пабудзіў – выйшаў з метро
да Палаца прафсаюзаў і пайшоў
на сваю вуліцу Чырвоную.

## *34. Пячатка*

Ян папрасіў у мяне даведку,
якая сведчыць, што ён напраўду бачыў анёла.
З Яна насміхаліся, яму ніхто не верыў,
ён расказваў, што яшчэ ў дзяцінстве ў Заслаўі,
у закінутым касцёле, які стаяў без даху,
бачыў у сінім небе белакрылага анёла.
Не верылі тады, не вераць і цяпер.
Таму Яну патрэбна даведка з пячаткай.
У мяне якраз ёсць круглая пячатка
гарадскога грамадскага аб’яднання «Кальварыя»,
якое займаецца аховай могілак і мемарыялаў.
Яну спадабалася ідэя, што даведка
пра даўнюю сустрэчу з легкакрылым анёлам
будзе падмацавана фіялетавай пячаткай
з пераканаўчым словам «Кальварыя».
Як тут чалавеку адмовіць?
Цяпер у Яна ёсць даведка, ёсць доказ,
што ў далёкім дзяцінстве ён сустрэў анёла.

Аднойчы ў Барселоне я бачыў ружовага фламінга.
Ён ляцеў нізка, можна было дастаць рукою.
Пра сустрэчу з фламінга ніякіх доказаў у мяне няма.
Зрэшты, яны мне без патрэбы,
але менавіта з-за сваёй сустрэчы з фламінга
я выпісаў беднаму Яну даведку пра анёла
і прыклаў да яе круглую пячатку.

## *35. У цемры*

Цемра суцэльная, густая і бязгучная.
Ляжу на ложку, упоперак і без падушкі.
Так стаміўся, што лёг не распранаючыся.
Паваліўся, сцішыўся і знерухомеў.
Нічога не бачу, нічога не чую.
Адчуваю толькі лёгкі і свежы водар мора.
Такі водар у майго анёла – нябесна-марскі.
Прысутнасць анёла заўжды супакойвае.
Зараз засну, зараз апынуся на марскім беразе,
буду ісці па вільготным пяску,
ісці ўздоўж бясконцага жоўтага пляжа...
Трэба ўстаць, разаслаць ложак, распрануцца,
легчы пад коўдру, апусціць галаву на падушку.
Не рухаюся, бо не хачу трывожыць анёла:
ён жа таксама стаміўся за цяжкі і доўгі дзень.

## *36. Формы*

Сустракаемся і развітваемся.
Зноў сустракаемся і зноў развітваемся.
Зрэдку ты сустракаешся не толькі з чалавекам.
Сустракаешся з чалавекам і ягоным анёлам.
Пасля такой сустрэчы цяжка развітацца,
хочацца быць побач з такім чалавекам...
Усё адно развітваецеся.
Праз кароткі час ты пачынаеш шукаць сустрэчы,
пачынаеш чакаць сустрэчы з незвычайным.
Сумна і маркотна без сустрэчы з анёлам...
Анёл? Як ён выглядае? Па-рознаму...
Бывае анёл у форме цацкі ці лялькі,
бывае і ў форме кнігі ці альманаха,
бывае ў форме сукенкі ці свежаадпрасаванай кашулі.
Анёлы маюць самыя розныя формы,
але ты пазнаеш яго адразу, пазнаеш і палюбіш.
Здараецца і неверагоднае: чалавек сыходзіць,
а ягоны анёл застаецца з табою...
Белая кашуля на спінцы чырвонага крэсла?
Так, гэта анёл.

## *37. У пустэльні*

Мы ішлі па пустэльні...
Вярнуцца мы не маглі.
Што чакае наперадзе? Не ведалі.
Такое здараецца з выгнаннікамі...
Яны назаўжды страчваюць мінулае,
яны нічога не ведаюць пра будучае,
але яны напоўнены любоўю адно да аднаго...
З самай раніцы да позняга вечара
мы ішлі па камяністай і пыльнай пустэльні,
ішлі пад сляпучым і жорсткім сонцам,
ішлі, пакуль халодная цемра не агарнула нас.
Стомленыя, мы леглі на зямлю.
Сваё левае крыло я падклаў табе пад галаў,
правым крылом я накрыў цябе.
Так ты і спала ў пустэльні,
абгорнутая маімі шэрымі ад пылу крыламі.

## *38. У Таіландзе*

Начны Бангкок ззяе мірыядамі лямпачак.
Я спыняю мотарыкшу і паказваю візітку з бардэля.
Наша аўто закочваецца ў шырокую машынную плынь.
Паміж аўтобусамі і легкавікамі, фургонамі і матацыклістамі
лячу-імчу ў адкрытым кузаве,
моцна трымаючыся за жалезную парэнчу.
Спрабую заплюшчыць вочы, але так больш страшна.
Маторы равуць, шыны вішчаць, людзі ўскрыкваюць.
Бачу, як на скрыжаванне вылятае матацыкліст.
Не паспеў затармазіць? Паспрабаваў праскочыць?
Няважна... Важна, што яго зачапіў фургон з колай.
Матацыкліст валіцца на бок і юзам ляціць
па асфальце, як па гладзенькім лёдзе.
На дарозе застаецца шыракаватая
крывавая бліскучая паласа.
Збітага матацыкліста спыняе ліхтарны слуп.
Апошняе, што бачу:
круглая і светлая, як тэнісны шарык,
душа вылятае з забітага матацыкліста,
і яе ловіць анёл.
Мой мотарыкша паварочвае ў цемнаваты завулак
і спыняецца каля ружовай вітрыны бардэля.

## *39. Парэчкі*

Кастрычнік, а пасярод ночы з’явіўся камар.
Сеў на руку – разбудзіў.
Як толькі я расплюшчыў вока,
ён узняўся і прапаў у цемры.
Ледзь чутны звон не даваў заснуць.
Толькі я паспрабую вярнуцца ў свае сны,
як камар прылятае і садзіцца на мяне:
на шчаку, на лоб, на руку, нават на нос.
Я згодны быў падараваць камару
не адну, а цэлых адзінаццаць кропель крыві,
каб толькі пакінуў мяне ў спакоі.
Камар не пайшоў на перамовы.
Тады я звярнуўся да анёла і папрасіў абароны.
Анёл, праўда, папытаў, чым аддзячу.
Я прапанаваў пару сноў пра дзяцінства:
сон пра крынічную рэчку з пясчаным пляжам,
сон пра лес з сыраежкамі,
сон пра сад з кустамі жоўтых парэчак...
Анёл спакусіўся салодкімі парэчкамі.

## *40. Пюрэ*

Дачка патэлефанавала і папыталася:
«Якое ты любіш картаплянае пюрэ:
Каб з невялічкімі камячкамі
Ці каб яно было роўна растоўчанае?» –
«Хай будзе роўна перамяшанае...»
Пюрэ я знайшоў у яшчэ гарачым міксеры,
Лыжкай акуратна пераклаў
яго ў глыбокую талерку.
Міксер разабраў, старанна вымыў
І расклаў сушыцца на свежым рушніку...
«Ты так задаволены гэтым пюрэ,
быццам не дачка, а я – твой анёл –
згатаваў гэтую простую страву...» –
«Акрамя пюрэ дачка мне пасмажыла катлет.
А ты хіба мне нешта гатаваў?» –
«На Пасху я прыносіў чырвонае яечка!»

## *41. Атэльве*

Анёл абрэзаў пазногці на нагах.
Ён хацеў быў наведацца ў салон прыгажосці,
але палічыў, што паслугі педыкюршы
занадта дарагія і недастаткова якасныя.
Пасля абразання пазногцяў
анёл адчуў лёгкасць ва ўсім целе.
Ён надзеў паласатыя, бэзавыя з шэрым шкарпэткі,
ахінуўся ў светла-ліловы хітон
і прыляцеў да мяне ў атэльве,
каб пазіраваць для свайго партрэта.
Анёл паклаў вузенькую далонь мне на плячо
і расказаў, як ён старанна абразаў пазногці,
як пасля акуратнага абразання
ён адчуў неверагодную лёгкасць быцця.
Я паглядзеў на легкадумнага анёла,
які нібыта толькі што сышоў з баракальнага абраза,
і ўздыхнуў як стары чаравік.

## *42. Гатычны матыў*

Сцены навокал цагляныя і халодныя,
падлога з чырвонай кафлі, скляпенні з чырвонай цэглы.
Скразнякі пахнуць пылам.
Ёсць вокны-байніцы, але яны закладзены цэглай.
Якім чынам я патрапіў у цагляны лабірынт?
Каб хто мне тое растлумачыў.
У які бок пайсці?
Яшчэ раз абмацваю сцены, падлогу, скляпенні
халодна-блакітным кругам святла ад невялікага
ліхтарыка.
Іду, калідор робіць заварот і раздвойваецца.
Вырашыў: буду трымацца правага боку.
Яшчэ адзін заварот, яшчэ адно раздваенне.
Іду павольна, асцярожна, баючыся невядомасці.
Зноў калідор раздвойваецца,
у левым кірунку бачу анёла залатакрылага,
але я ўзяў за прынцып трымацца правага боку...
Гукаю анёла, ён уздрыгвае і прападае.
Гасне ліхтарык. Холад. Цемра.
У халоднай цемры заканчваецца маё трызненне.

## *43. Гадзіннік*

Анёл нёс па вуліцы стары насценны гадзіннік.
Некалі даўно ледзь не ў кожнай прыстойнай кватэры
вісеў золатацыферблатны гадзіннік
у цёмна-вішнёвым драўляным футарале,
з зашклёнымі вузкімі дзверцамі,
за якімі павольна хістаўся латунны ківач.
Такі гадзіннік кожныя пятнаццаць хвілін падаваў голас.
Круглы цыферблат ганарыўся чорнымі стрэлкамі.
У руках анёла цыферблат выглядаў німбам,
але сам гадзіннік глядзеўся недарэчнасцю.
Я быў перакананы, што анёл заўсёды ведае~~, які зараз~~ час.
Анёлу не патрэбны розныя механізмы.
Зрэшты, я магу памыляцца, таму і спытаў:
«Анёл, нашто табе зламаны гадзіннік?» –
«Інвалід папрасіў дапамогі,
папрасіў, каб я знайшоў майстра
і наноў запусціў сапсаваны механізм.
Інвалід сам шукаў майстра,
але ўсе гадзіннікавыя майстры даўно памерлі.
Я паабяцаў адрамантаваць гадзіннік,
цяпер нясу яго ў царства мёртвых...
Гадзіннікавыя майстры там сумуюць без працы.
Там не патрабуецца іх тонкае майстэрства:
там іншы час. Зусім іншы час...»

## Змест

**Глобус**, А.

Г54 Анёл. Вершы / Адам Глобус. — Мінск : Выдавец Зміцер Колас, 2021. — 72 с.

ISBN 978-985-23-0158-9.

Адам Глобус – паэт і мастак. Ягоныя вершы перакладаліся на самыя розныя мовы, а ягоныя карціны і графіка знайшлі прытулак не толькі ў прыватных зборах, але і ў музеях. Зборнік «Анёл» складзены з казачных верлібраў пра Анёла і з экспрэсіўных малюнкаў аўтара..

Адрасуецца шырокаму колу чытачоў.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Адам Глобус

# АНЁЛ

*Вершы*

Адказны за выпуск *Зміцер Колас.*

+12

Падпісана ў друк 23.09.2021. Фармат 60×90 1/32.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ул.-выд. арк. 1,76. Ум. друк. арк. 2,25.
Наклад 99 асобнікаў. Замова №

Выдавец і паліграфічнае выкананне
індывідуальны прадпрымальнік Зміцер Колас.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка
друкаваных выданняў № 1/291 ад 17.04.2014.
Пр. Незалежнасці, 105-14, 220023, Мінск.